# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 45 (1591) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 9 ЛІСТАПАДА 1986 г. ЦАНА 10 зл.

ДА 80-ГОДДЗЯ „НАШАЙ НІВЫ"

## ГОЛАС БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ

Тыднёвік „Наша ніва" існаваў у Вільні з 10 лістапада 1906 года да 7 жніўня 1915 года. Ад пачатку да 24 кастрычніка 1912 года „Наша ніва" выдавалася двума шрыфтамі: лацінкай і кірыліцай. Было гэта падыктавана імкненнем выдаўцоў здабыць чытачоў як у асяроддзі каталікоў, так і ў асяроддзі праваслаўных беларусаў. Сярэдні тыраж тыднёвіка раўняўся 4500 экземпляраў. З гэтага 3000 выдавалася кірыліцай, а 1500 — лацінкай. Зразумела, што гэтая „двайстасць" вельмі павялічвала выдаткі, звязаныя з друкам тыднёвіка. Якраз гэта было прычынай пераходу „Нашай нівы" ў 1912 годзе выключна на „гражданку". Прычынай ліквідацыі „Нашай нівы" ў 1915 годзе было набліжэнне руска-нямецкага фронту да Вільні.

„Наша ніва", як і яе папярэдніца „Наша доля", выдавалася па ініцыятыве прагрэсіўнай партыі „Беларуская сацыялістычная грамада".

Насуперак „Нашай долі", якая выходзіла пад вельмі вымоўным заклікам: „Памірае рэвалюцыя, хай жыве рэвалюцыя", за што бязлітасна праследавалася царскай цэнзурай, „Наша ніва", стараючыся пазбегнуць лёсу сваёй папярэдніцы, кіравалася ідэалогіяй, якую можна было б акрэсліць як пазітывістычную.

Развіццё асветы ў беларускім грамадстве, мадэрнізацыя апрацоўкі зямлі і хутарызацыя вёскі, стварэнне розных суполак вясковых вытворцаў, узмацненне прывязанасці да роднай мовы, эмансіпацыя беларускай жанчыны, абарона беларускіх дзяцей, урэшце, культурная аўтаномія краіны з устаноўчым сеймам у Мінску або Вільні — вось галоўныя ідэі „Нашай нівы".

Адзін з галоўных ідэолагаў нашаніўскага адраджэння Антон Луцкевіч напісаў, што „Наша ніва" галоўную мэту сваёй дзейнасці бачыла ў эканамічным і культурным развіцці краіны, ва ўзняцці на вышэйшы ўзровень нацыянальнай і чалавечай годнасці беларуса, у спалучэнні ў адну цэласць беларусаў-каталікоў і беларусаў-праваслаўных.

Матэрыяльнае становішча „Нашай нівы" на працягу ўсяго яе існавання было цяжкое, а няраз здараліся такія сітуацыі, у якіх тыднёвік знаходзіўся на краі гібелі. Варта сказаць, што тагачасная царская дзяржава не толькі не давала рэдакцыі якой-небудзь фінансавай субсідыі, але рознымі абмежаваннямі і перш за ўсё канфіскацыямі асобных яе нумароў радыкальна пагаршала яе эканамічную пазіцыю. Чарговымі рэдактарамі „Нашай нівы" былі: С. Вольскі, А. Уласаў і Я. Купала. Захаваўся ліст Купалы з перыяду, калі быў ён рэдактарам тыднёвіка. Ліст гэты, накіраваны вядомаму беларускаму дзеячу з Пецярбурга Б. Эпімаху-Шыпілу, з'яўляецца пасведчаннем аб драматычным фінансавым стане асоб, рэдагуючых „Нашу ніву". У лісце Купала просіць Эпімаха-Шыпілу прыслаць яму крыху грошай, бо як жа: „кажух, каб яго немач, цалкам развaліўся і не маю ў чым злазіць у цэнзуру". Наракае Купала і на тое, што, нягледзячы на халады, не паліць у печы, бо не мае за што купіць дроў. Зразумела, што калі галоўны рэдактар знаходзіўся ў такім фінансавым становішчы, дык і часопіс, якім ён кіраваў, не быў у становішчы лепшым.

Паяўленне „Нашай нівы", яе паслядоўны дэмакратызм, прыхільныя і дружалюбныя адносіны да іншых народаў выклікалі ў дэмакратычных колах суседніх нацый добразычлівыя і прыхільныя адносіны да беларускага тыднёвіка. Вельмі прыхільна аб „Нашай ніве" выказаўся ў артыкуле „Беларускія паэты" рускі публіцыст А. Пагодзін і не менш прыхільна аб тыднёвіку напісаў польскі аўтар В. Вагнеровіч, які ў публікацыі „Młoda Białoruś" сцвердзіў: „Wielka masa narodu, jego siła żywotna prędzej czy później przełamie przeszkody i pójdzie drogą własnych ideałów. Nieprzychylność i negowanie owej koncepcji odrodzenia narodowego jest krótkowidztwem i płodem niewolniczej fantazji".

Зразумела, што як у рускіх, так і ў польскіх кансерватыўных колах не раз раздаваліся галасы, якія, як маглі, кампраметавалі „Нашу ніву" і звязаных з ёю людзей. Найбольш балючае аднак тое, што самыя знішчальныя нігілістычныя і бязлітасныя нападкі на „Нашу ніву" выйшлі з колаў беларускіх публіцыстаў, якія, пачынаючы ад 1929 года, а канчаючы пяцідзесятымі, з непрытомнай нянавісцю накідаліся на гэты тыднёвік. Да такіх крытыкаў належалі, між іншым, І. Барашка („Пад сцягам барацьбы за гегемонію пралетарскай літаратуры"), С. Будзінскі („Вораг у доме"), П. Галавач, А. Звонак („Супраць буржуазнай рэакцыі ў мастацкай літаратуры"), А. Сянкевіч („Класавая барацьба ў беларускай літаратуры"), А. Гурыновіч („Супраць нацыянал-шавінізму і дэмакратызму розных колераў"), Л. Бэндэ і А. Кучар („Матэрыялы для нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры") і многія іншыя.

Час — найсправядлівейшы і

(Працяг на стар. 4)

Год 1. Вильня 17/30 листопада (ноября) 1906 г. № 2.

Наша Нива

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМИ

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литэрами.

Адрэс рэдакціи и администраціи: Вильня, Большая Погулянка д. № 17. Цэна асобнаго нумэру 5 кап.

## БУДАЎНІЦТВА БЕЛАСТОКА

Беласток гэта адзін з 18-ці гарадоў нашай краіны, у якім пражывае больш 200 тысяч чалавек. Гэта буйнейшы цэнтр прамысловасці, навукі і культуры ў паўднёва-ўсходнім рэгіёне Польшчы. Беласток хуткімі тэмпамі змяняе сваё аблічча. Ён з дня на дзень прыгажэе, маладзее. Растуць новыя мікраёны, пабудавана тут шмат прадпрыемстваў, якія няраз маюць агульнадзяржаўнае значэнне. Было б іх яшчэ больш, але некаторыя з іх затрыманы ў часе будовы і пакуль што стаяць і нішчэюць, разам з масай накопленага пры іх будаўнічага матэрыялу. Кожнаму, хто праязджае Паўночна-ўсходняй кальцавой шашою, кідаецца ў вочы, як пад голым небам марнуецца грамадскае дабро. Ды, зрэшты, не толькі там. Не хапае грошай на прамысловае будаўніцтва, а там, дзе яны ёсць, не можа яно выконвацца з-за бесталковага планавання і недахопу нагляду. Датычыць гэта жыллёвага будаўніцтва, якое стаіць на парозе правалу, далікатней кажучы — бяздзейнасці. Яго далейшае развіццё не забяспечана падземнымі абсталяваннямі тэрыторыі і праектнай дакументацыяй. Не памяталі аб гэтым ваяводскія праектанты, калі рыхтавалі будову цеплацэнтралі на Бажантарні, яны забыліся аб тым, што прадукцыйны цыкл інвестыцыі пачынаецца не тады, калі прыступаюць да земляных выкопак пад будынкі, а значна раней.

Надобрай з'явай было і тое, што ў Ваяводскай управе і жыллёвым кааператыве страцілі паўгода часу на спор, хто павінен купіць зямлю пад жыллёвае будаўніцтва. Ужо праз нейкі час адміністрацыйныя і партыйныя ўлады горада Беластока агледзеліся, што кантроль і нагляд іх быў недастатковы. Гарадскі камітэт ПАРП толькі цяпер, з такім спазненнем, лічыць сваёй амбіцыяй навядзенне ладу і парадку ў разбудове горада. Калі б адбывалася яна спраўна, дык за апошнія тры гады было б аддадзена ў карыстанне людзям не 8 тысяч 700 кватэр, а значна больш.

(Працяг на стар. 5)

 

## НА МЯЖЫ

# АБ ЛЮБОВІ (2)

Некаторыя людзі гавораць: „Тыя старыя, што не ідуць на пенсію і на сілу ўтрымоўваюць гаспадаркі, толькі марнуюць зямлю, бо вядома, што не маюць сілы, каб яе добра апрацоўваць". І сапраўды, усім і ўсюды вядома, што сямідзесяцігадовы мужчына або шасцідзесяціпяцігадовая жанчына не здолеюць так эфектыўна працаваць, як працуе трыццацігадовы чалавек. Праўда таксама, што ў некаторых старых гаспадароў зямля і будынкі запушчаныя. Аднак сказанае абсалютна не абазначае, што зямля, якая ад старых людзей трапляе ў рукі чужых маладых, становіцца аўтаматычна аб'ектам любові і клапатлівасці. Наадварот, маем часта дачыненне са з'явай балючай і грознай. Праяўляецца яна ў тым, што такую перададзеную пажылымі гаспадарамі дзяржаве зямлю перайме нейкі сусед, бесчалавечна не эксплуатуе яе працягу таго перыяду, калі за яе не мусіць плаціць падатак, а калі толькі перыяд бясплатнага карыстання канчаецца, зямлю кідае. Тады яе бярэ нехта другі, зноў карыстаецца некалькі гадоў і зноў кідае. І так гэтая карусель працягваецца, а некаханая зямля ўсё болей ялавее, запускаецца, зарастае пустазеллем усё болей і болей. Зразумела, што з кожным годам дае яна ўсё меншыя і меншыя ўраджаі, бо зямля некаханая не родзіць. Вось па гэтых прычынах з сапраўднай пашанай і ўдзячнасцю гляджу я на ўсіх тых пажылых гаспадароў, якія, нягледзячы на тое, што дайшлі да пенсійнага ўзросту, у далейшым апрацоўваюць свае гаспадаркі і не аддаюць іх у чужыя рукі.

Але як доўга здолеюць яны трымаць гэтыя гаспадаркі? Зразумела, што справа простая там, дзе сын старога гаспадара застаўся на вёсцы і пераняў бацькаўшчыну. Але колькі ж сёння на вёсках такіх пажылых людзей, дзеці якіх выехалі ў гарады і адтуль ужо не вернуцца. У гэтай галіне, зрэшты, назіраецца вялікая розніца паміж беларускімі вёскамі з Бельшчыны ці Гайнаўшчыны і вёскамі з Сакольшчыны ці Дубровшчыны. Калі едзеш амаль праз любую вёску Гайнаўшчыны, адчуваецца яе гаспадарчая і дэмаграфічная дынаміка. Прыгожыя будынкі, многа новых дамоў, дасканалая сучасная агароджа, машыны на панадворках. На Гайнаўшчыне нямала вёсак, у якіх няма ніводнай пустой хаты. Як жа адменная карціна на Сакольшчыне, Дубровшчыне, а нават у былым Беластоцкім павеце. Тут пустых хат не мала. І колькасць іх з кожным годам узрастае. Калі праз прызму гэтай з'явы гляджу на перспектыву беларускамоўнай Беласточчыны — агортвае мяне жах. У такім становішчы з кожным годам будзем мець менш дзяцей, якія вывучаюць родную мову, менш членаў БГКТ і менш чытачоў „Нівы". Адным словам, беларускі мацярык усё больш будзе курчыцца. Самае галоўнае, што нельга нічога супрацьставіць гэтаму працэсу. Раней ці пазней амаль уся сельская гаспадарка стане калектыўнай. А калектывізацыя, як вядома, у Польшчы (не так, як у Чэхаславакіі, Венгрыі ці ГДР) дала не надта добрыя вынікі. Так ці інакш, з сапраўдным прызнаннем і ўдзячнасцю гляджу на ўсіх тых беларусаў, якія, нягледзячы на свае гады, трымаюцца роднай зямлі і абаграваюць яе сваімі гарачымі рукамі і гарачым сэрцам. Яны не толькі не могуць быць аб'ектам насмешкі, а павінны быць аб'ектам захаплення.

**Алесь Барскі**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### У БЮРО ЦК КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

За грубыя парушэнні патрабаванняў партыі і ўрада аб недапушчэнні карэкціровак планаў, нездавальняючае кіраўніцтва галіной, якое праявілася ў зрыве дагаворных абавязацельстваў, планаў па сабекошту, прыбытку, дадатковага задання па выпуску і пастаўцы гандлюючым арганізацыям тавараў народнага спажывання, міністру лёгкай прамысловасці БССР Л. М. Нагібовічу аб'яўлена строгая вымова з занясеннем ва ўчотную карту члена КПСС. Строгая вымова з занясеннем ва ўчотную карту члена КПСС аб'яўлена старшыні Белкаапсаюза У. І. Чыгіру — за сістэматычнае невыкананне плана рознічнага тавараабароту і нездавальняючы гандаль у вёсцы. Партыйныя спагнанні аб'яўлены міністру будматэрыялаў БССР В.Л. Більдзюкевічу — за непрынянцце належных мер па перабудове стылю і метадаў кіраўніцтва галіной, невыкананне планаў вытворчасці будаўнічых матэрыялаў, неабходных для сацыяльнага будаўніцтва, і пастаўак прадукцыі ва ўстаноўленай наменклатуры; міністру паліўнай прамысловасці Г.А. Філіпаву — за ігнараванне патрабаванняў аб недапушчэнні карэкціровак планаў. Строга ўказана намесніку Старшыні Савета Міністраў БССР К. З. Цераху і міністру гандлю БССР М.А. Макаеду — на непрыняцце неабходных мер для выканання плана тавараабароту і насычэння рынку таварамі шырокага асартыменту і высокай якасці.

### БЕРАГЧЫ ВОДНЫЯ БАГАЦЦІ

Разнастайнае плённае супрацоўніцтва спецыялістаў краін — членаў СЭУ ў зберажэнні і рацыянальным выкарыстанні водных багаццяў. Сумесна з польскімі вучонымі распрацаваны праект высокаэфектыўнага выкарыстання пагранічных рэк, падрыхтаваны прагноз якасці іх вод на перыяд да 2000 года, створана сістэма аўтаматызаванай апрацоўкі глебава-меліярацыйных даных ва ўмовах Беларусі.

Па плану навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва з Федэральным міністэрствам металургіі і цяжкага машынабудавання ЧССР і канцэрнам „Сігма" распрацоўваецца тэхналогія будаўніцтва камплектных аўтаматызаваных помпавых станцый, узводзяцца эксперыментальныя аб'екты.

Вучоныя Беларусі вядуць таксама сумесныя даследаванні са спецыялістамі Румыніі, Венгрыі, ГДР і Балгарыі.

Далейшаму паглыбленню такога супрацоўніцтва паслужыць XXXIII пасяджэнне нарады кіраўнікоў водагаспадарчых органаў краін-членаў СЭУ, якое адбылося ў канцы верасня ў Мінску.

Былі падведзены вынікі дзейнасці за папярэдні перыяд, абмеркавана праграма на будучыню. У прыватнасці асаблівая ўвага ўдзелена рацыянальнаму выкарыстанню дунайскіх вод, а таксама ракі Цісы, захаванню чысціні вадаёмаў, папярэджанню і ліквідацыі вынікаў аварыйных скідаў, іншым праблемам.

### ТКАЧАМ ДАПАМОЖА КЕРАМІКА

Для спецыялістаў тэкстыльных прадпрыемстваў спрадвечным застаецца пытанне: як прадоўжыць жыццё ніцей, што бягуць па ткацкаму станку, як зрабіць, каб яны не пераціраліся аб розныя кручкі, катушкі?

Задумаўся над ім і калектыў вучоных праблемнай навукова-даследчай лабараторыі Беларускага тэхналагічнага інстытута. Тут здолелі рашыць задачу, прапанаваўшы замяніць у тэкстыльным абсталяванні сталёвыя дэталі 160 назваў на керамічныя.

Поспех даследчыкаў забяспечыла пранікненне ў тэхналагічныя сакрэты атрымання новых шклокрышталічных матэрыялаў. З іх можна „варыць" вырабы самай складанай канфігурацыі, якія ў 8—10 разоў больш даўгавечныя за металічныя.

Выпрабаванні на прадпрыемствах лёгкай і хімічнай прамысловасці паказалі, што ўкараненне навінкі прыкметна паляпшае якасць ніцей: яны становяцца менш варсістымі, а за кошт гэтага і менш рвуцца. Акрамя таго, павялічваецца тэрмін безрамонтнай службы абсталявання, таму што новым дэталям загадзя зададзены такія важныя ўласцівасці, як павышаная хімічная ўстойлівасць і цвёрдасць. На Мінскім фарфоравым заводзе пачата стварэнне ўчастка, на якім ужо ў будучым годзе плануецца вырабіць больш за мільён эксплуатацыйных вузлоў.

### УРАДЖАЙ ГАРАНТУЕ... САМАЛЁТ

У саўгасе „Дружба" Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці ў якасці асноўнага пасяўнога агрэгата на збожжавым полі прымяняюць... самалёт. Глеба тут у асноўным тарфяная, выкарыстанне трактарнай тэхнікі ўскладнена. Чакаць жа, калі зямля падсохне, справа ва ўмовах беларускага Палесся ненадзейная.

З дапамогай самалёта сяўба праводзіцца ў самыя аптымальныя тэрміны — на працягу 1—2 дзён. Выкарыстоўваецца ён і пры апрацоўцы пасеваў: на ўнясенні мінеральных угнаенняў, хімпрапалцы і іншых аперацыях.

У „Дружбе" сучасная і якасная сяўба збожжавых, эфектыўная апрацоўка палёў пры дапамозе самалёта прыносіць усё больш адчувальныя вынікі. Калі некалькі год назад з кожнага гектара збіралі ў сярэднім каля 20 цэнтнераў збожжа, то сёлета атрымалі ўжо па 36 цэнтнераў. Зніжаецца і сабекошт выпускаемай прадукцыі.

## НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

### ЦАНА ВАЙНЫ

З 6 тысяч гадоў гісторыі, вядомай па пісьмовых помніках, на працягу 5.700 гадоў вяліся войны, якіх было больш 15 тысяч, г.зн. у сярэднім на год прыпадала прыкладна 2 вайны. І войны гэтыя забралі амаль 4 мільярды чалавечых жыццяў. Асабліва вялікі ўрон войны нанеслі густанаселенай Еўропе. Так, за перыяд з 1600 па 1945 г. агульная колькасць усіх загінуўшых у Еўропе склала, паводле самых асцярожных падлікаў, каля 90 мільёнаў чалавек.

Першая і другая сусветныя войны пакінулі пасля сябе, згодна з далёка не поўнымі данымі, больш 40 мільёнаў калек-інвалідаў вайны сярод ваеннаслужачых. А агульная колькасць інвалідаў за другую сусветную вайну склала 95 мільёнаў чалавек. Паводле разлікаў вучоных за гады другой сусветнай Зямля ў цэлым „недалічылася" 175 мільёнаў чалавек.

Зніжэнне абсалютнай колькасці насельніцтва ваюючых краін, галоўным чынам за кошт гібелі мужчынскага насельніцтва маладога ўзросту, выклікае рэзкае скарачэнне шлюбнасці і нараджальнасці. А гэта выклікае незваротныя дэмаграфічныя змяненні, вынікі якіх даюць аб сабе знаць яшчэ на працягу многіх дзесяцігоддзяў пасля заканчэння вайны.

І вось цяпер над светам вісіць пагроза новай, самай спустошальнай вайны. Як паказваюць разлікі Сакратарыята ААН, на працягу шэрагу апошніх гадоў ваеннай дзейнасцю ў свеце занята больш 60 мільёнаў чалавек, у тым ліку непасрэдна ва ўзброеных сілах — больш 22 мільёнаў чалавек. Штодзень у свеце паводле разлікаў экспертаў ААН расходуецца каля мільярда долараў, пры гэтым велізарная маса людзей — чацвёртая частка вучоных і інжынераў свету, занятых у навуковых даследаваннях і распрацоўках, — выконвае ваенныя работы.

Калі ў Альберта Эйнштэйна спыталі, якой зброяй будзе весціся трэцяя сусветная вайна, ён адказаў: не ведаю, але адзіным сродкам вядзення чацвёртай будзе каменная сякера. І гэта не гіпербала. Магутнасць сучасных толькі ядзерных арсеналаў планеты ў 10 тысяч разоў пераўзыходзіць суму ўсіх выбуховых рэчываў, выкарыстаных у гады другой сусветнай вайны. Гэтага дастаткова для таго, каб некалькі разоў знішчыць усё жывое на Зямлі. Здавалася б, даўно час спыніць нарошчванне ядзернай зброі. Аднак кіруючыя колы ЗША не жадаюць спыняць гонку ядзерных узбраенняў.

**Л.Л.**



 

# ПАКЛОНІМСЯ МЁРТВЫМ І ЖЫВЫМ

(Праця са стар. 3)

дынку гміннай управы ў памяць загінуўшым ад рэакцыі пяці міліцыянерам.

У Дзядковіцах удзельнікаў рэйду чакала шмат мясцовага насельніцтва, разам са школьнікамі і настаўнікамі. З прывітальнай прамовай выступіў першы сакратар гміннага камітэта ПАРП Юрка Ляўчук. Таварышы Віталій Сацэвіч і Уладзіслаў Семянюк расказвалі аб каўпакоўскіх партызанах, а аб тым, як са страхам уцякаў з Дзядковіц нямецкі патруль перад партызанамі, гаварыў мясцовы жыхар Францішак Харытон. Школьнікі выступілі з мастацкай часткай, прысвечанай Дню Войска Польскага.

Пазней аўтамабільны рэйд затрымаўся ў Мілейчыцах, на могілках савецкіх салдат, якія загінулі падчас вызвалення Беласточчыны ў 1944 годзе. Начальнік гміны Мікалай Бартнічук выказаў многа душэўнага болю ў адрас загінуўшых, а таксама глыбокай удзячнасці ўсім тым жывым, якія спрыялі разгрому фашызму. А пасля ізноў жывыя кланяліся мёртвым, ускладаючы кветкі пад помнікам.

Выхаваўчай лекцыяй было таксама спатканне ўдзельнікаў рэйду ў вялікай спартыўнай зале мясцовай школы з яе навучэнцамі і настаўнікамі. Першы сакратар ГК ПАРП Яўген Матуевіч, падпалкоўнік Віталій Сацэвіч і маёр Уладзіслаў Семянюк наблізілі прысутным той перыяд, калі наша сённяшняе свабоднае жыццё акуплялася смерцю салдат і партызан ды ўсіх змагароў з нямецкім акупантам. Школьнікі далі цікавы канцэрт, а пасля ўдзельнікі рэйду былі запрошаны ў школьную сталоўку на салдацкі гарохавы суп.

З Мілейчыц рэйд накіраваўся ў Чаромху. Ля Дома культуры чыгуначнікаў духавы аркестр прывітаў прыбыўшых. З цёплымі словамі выступіў сакратар партарганізацыі чыгуначнікаў Напалеон Кучынскі. У Доме культуры адбылася акадэмія, прысвечаная 43-ай гадавіне бітвы пад Леніна. З дакладам выступіў сакратар ГК ПАРП Анджэй Венцлаў, а ў мастацкай частцы — духавы аркестр чыгуначнікаў, калектыў „Аверс" і школьнікі. Удзельнікі рэйду, як і ў Мілейчыцах, Дзятковіцах і Танкелях, атрымалі ад моладзі кветкі. І ўсхваляваліся франтавікі: Мікалай Турык з Навасёлкаў, Мікалай Юзафовіч і Уладзімір Пракаповіч з Мілейчыц...

Рэйд закончыўся пры вогнішчы, на якім былі песні і ўспаміны. З нагоды рэйду быў выдадзены спецыяльны медаль, які атрымалі яго ўдзельнікі.

Так была пачата вялікая справа ўшанавання савецкіх партызан.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота аўтара



**Помнік у Танкелях.**

(Праця са стар. 1)

# БУДАЎНІЦТВА БЕЛАСТОКА

Улічваючы дрэнную сітуацыю ў будаўніцтве, падлічана, што апошняя сям'я з цяперашняй чаргі па сваю кватэру атрымае яе ў 2004 годзе. Як скараціць гэтую чаргу, вырашалі дэлегаты гарадской справаздачна-выбарнай канферэнцыі ПАРП у Беластоку, якая адбылася 18 кастрычніка гэтага года. Многа гаварылася аб тым, каб да мінімума абмежаваць прапіску людзей з вёсак і мястэчак і гэтым самым зменшыць патрэбы на кватэры. Часта здараецца, што гэтыя людзі стараюцца атрымаць жыллё ў будынках, прызначаных для ліквідацыі, а таксама ў рознага роду летніх кухнях, а нават у хляўках, зусім непрыгодных для жыцця. Яны атрымліваюць працу ў Беластоку і, што ідзе за гэтым, хутчэй маюць кватэру ў блоках, чым тыя, якія чакаюць яе гадамі. А бываюць і такія выпадкі, што некаторыя маюць свае ўласныя дамы, нават вілы з некалькімі паверхамі, дасканала абсталяваныя, а іх дзеці атрымоўваюць кватэры ў блоках, а на іх месца ў хату бяруць кватарантаў. Таму неабходны больш дакладны кантроль.

У праграме пастановы спамянутай гарадской канферэнцыі прадбачваецца стварыць лепшыя ўмовы для аднасямейнага будаўніцтва, так, каб пабольшылася яно ў наступнай пяцігодцы на 25 працэнтаў. Гэта будзе спрыяць скарачэнню шматгадовага чакання кватэры ў блоку.

Неадкладнай справай горада Беластока з'яўляецца прыстасаванне яго арганізму да росту насельніцтва. Штогод прыбывае яго больш 5-ці тысяч. Апрача жылых будынкаў неабходна хутка будаваць яслі, прадшколлі, школы, крамы, пункты аховы здароўя і культурныя ўстановы, палепшаць і павялічваць колькасць транспарту. За апошнія тры гады пабудавана 2 ясляў, 6 школ, 2 будынкі для аховы здароўя, 29 будынкаў для гандлю. Патрэбы, аднак, на ўсё гэта значна большыя, а магчымасці, на жаль, не павялічваюцца.

Шмат праблем горада трэба вырашыць, але аб іх у наступных публікацыях. (мх)

# МЕЛІЯРАТАРЫ

Разумна зробленая меліярацыя гэта шчасце для сельскай гаспадаркі, гэта новыя гектары добрай, непадмакаючай зямлі і новыя гектары адбагоненых лугоў. Нашы меліяратары часам не вельмі ўдана праводзяць меліярацыю, выклікаючы засушванне зямлі ці некалі заліўных лугоў. Усяляк бывае, але, так агульна кажучы, заслугі меліярацыі вялікія. Трыццаць гадоў назад меліяравалі ў нас яшчэ надта прымітыўнымі спосабамі, усё ўручную, усё рыдлёвачкамі і тачкамі. І толькі недзе каля 1953 г. з'явіліся першыя машыны ў меліятараў на Бельшчыне, землечарпалкі і іншыя.

Толькі за апошнія пяць гадоў меліяравана тут больш дваццаці тысяч гектараў удзічэлага поля і пашы. Меліяравана даліна рэчкі Нурэц, некалі вельмі багонная. Вернуты ў карысць сельскай гаспадаркі макротныя лугі Райска, Зубава, Кнаразоў.

**Андрэй Гаўрылюк**

А колькі ж балючай беларускай праўды ў другім артыкуле М. Багдановіча — „Белорусское возрождение — 1914": „У краіне, шарпанай нацыянальнымі канфліктамі, „Наша ніва" безупынна прыпамінала аб неабходнасці пашаны праў кожнага народу, аб дацэньванні кожнай культуры, аб неабходнасці — побач умацавання асноў уласнай нацыянальнасці — карыстання з дасягненняў культуры польскай, рускай, украінскай.

... Ужо дзевяты год „Наша ніва" ідзе менавіта ў гэтым напрамку. Часопіс гэты не раз быў канфіскаваны, рэдактар арыштоўваўся, забараняўся доступ тыднёвіка да духавенства, настаўнікаў, вучняў настаўніцкіх семінарыяў і многім іншым прафесіям. Урадавая руская прэса атакавала „Нашу ніву", сцвярджаючы, што выдаецца яна за польскія грошы, а яе мэта заключаецца ў тым, каб аслабіць вялікарускія пазіцыі і падрыхтаваць грунт пад паланізацыю краіны. У сваю чаргу органы польскіх нацыяналістаў лічылі, што „Наша ніва" з'яўляецца далікатным, фінансаваным урадам, сродкам, гарантуючым русіфікацыю беларусаў-католікаў.

Усе гэтыя намаганні не пазбавілі выдаўцоў „Нашай нівы" псіхічнага гартунку, не былі яны ў стане паўстрымаць беларускі рух. У дадзены момант „Наша ніва" разыходзіцца ў сялянскім асяроддзі так шырока, як ніводзін з выдаваных у краіне перыёдыкаў".

Як можна супрацьставіць, для прыкладу, Купалу выдаўцам „Нашай нівы" братам Луцкевічам, калі вядома, што Купала ў сваім аўтабіяграфічным лісце, скіраваным на рукі рускага літаратуразнаўца Л. Клейнберта напісаў наступнае: „Яны дастаўлялі мне нелегальную літаратуру. Што праўда, я тады з імі не зышоўся, бо па натуры быў індывідыумам і не сцярпеў бы партыйнага ці іншага падпарадкавання. Пазней аднак мае кантакты, асабліва з братамі Луцкевічамі, умацніліся па практычных прычынах. У перыяд працы у вінакурнях я многа друкаваў у „Нашай ніве". Калі кінуў гэту работу, Луцкевічы запрапанавалі мне пасаду ў „Нашай ніве" і бібліятэцы „Знание" Даніловіча.

І ўрэшце хацелася б зацытаваць вельмі цікавае выказванне Я. Коласа, якое дасканала характарызуе ўмовы працы людзей, што звязалі свой лёс з „Нашай нівай": „У выключна цяжкіх умовах радзіўся беларускі культурны рух. Адсутнасць даверу, варожасць з боку улад, недахоп матэрыяльных сродкаў — вось што спадарожнічала маладому руху. Рэдакцыя „Нашай нівы", не зважаючы на ўсе перашкоды, упарта прадаўжала сваю справу. Я тады жыў у памяшканні рэдакцыі. Уласаў даваў мне пяць капеек у дзень на ўтрыманне. Аб ганарарах ніхто нават не заікнуўся, наадварот, кожны з нас быў гатоў аддаць апошні грош на падтрымку нашай справы".

Чым была „Наша ніва" для вялікай плеяды патэнцыяльных беларускіх пісьменнікаў? Усім. Альфай і амегай іх літаратурнага і нацыянальнага існавання. Чым была „Наша ніва" для сялянскай масы? Перш за ўсё настаўніцай, заступніцай, нацыянальным алфавітам, лемантаром, пры дапамозе якога грамадска і нацыянальна зняволены беларускі селянін вучыўся свяшчэнным словам „Айчына", „Родная Мова", „Роўнасць Народаў", „Годнасць". Бесчалавечна хлусілі ўсе тыя, хто прыпісваў „Нашай ніве" нацыяналізм, сеянне варожасці між народамі, служэнне эксплуататарскім класам. „Наша ніва" была рассаднікам і кветнікам добрых раслін і кветак, агародам, у якім не расло атрутнае зелле шавінізму, нацыянальнай варожасці, служэння капіталу. Галоўныя ідэі „Нашай нівы" не здэактуалізаваліся. Іх вітальнасць і актуальнасць праяўляюцца ў многіх выпадках да сёння. Не ведаю, хто прыдумаў назву „Наша ніва", так як не ведаю, хто з'яўляецца аўтарам назвы сучаснай „Нівы". У кожным выпадку бачу лагічную, эмацыянальную і перш за ўсё нацыянальную еднасць паміж гэтымі перыёдыкамі. Няхай нам сёння і заўтра, так як восемдзесят гадоў назад нашаніўцам, свеціць ідэя гарачай любові да ўсяго роднага і пашаны да чужога. І не баймася сёння, як не баяліся нашаніўцы ўчора, што заўтра пра нас дрэнна скажуць свае і чужыя ворагі беларусчыны.

**А. Баршчэўскі**

 

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



„Зорка“ пабывала ў дзяцей з гайнаўскага прадшколля на вуліцы Ліповай. Шасцігодкі якраз займаліся маляваннем. Хто каляровымі алоўкамі, хто фарбкамі. На маё пытанне, што яны яшчэ любяць рабіць, адказалі па-рознаму. Адны любяць пісаць літаркі, іншыя будаваць з кубікаў, адзін з хлопчыкаў прызнаўся, што любіць ездзіць самаходам. Але ўсе згадзіліся, што вельмі любяць спяваць. Ведаюць і песню пра Варшаву, якую заспявалі „Зорцы“, і шмат-шмат іншых. Вучыць іх спяваць выхавацелька Марыёля Прыходская, тая самая, што спявае з калектывам „Дубіны“ Таму няма чаго дзівіцца, што ўся група ўмее таксама спяваць і такія песні, як „Толькі з табою“, „У полі два дубочкі“, „Чорныя вочкі“ ці нават „Дарма, Ясю, ходзіш...“.

Фота Я. Чэрнякевіч

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Павел Кавалёў**

### ПРА ДАШУ

Звоніць неяк да мяне Даша і пытае зусім па-дарасламу:

— Ну, што ў цябе, дзядуля, сёння было на рабоце?

— Нічога асаблівага, — адказваю. — Працаваў... А ў цябе, Даша? Нештачка ж было, відаць, цікавае? Незвычайнае?

Унучка адказвае:

— Было. У кутку стаяла...

— За што ж хоць, скажы.

— А я не адна... Разам з Сярожкам і Валеркам.

— Ну, а ўсё ж за што?

— Пад стол мы лазілі.

— І ўсяго?

— Толькі адзін цэлы кубачак застаўся...

— ✲ —

Часта Дашына бабуля ходзіць да старэйшай дачкі. А як вяртаецца дадому, заўсёды мае ў сумачцы пакуначак з цукеркамі ці яшчэ якімі прысмакамі — для Дашы.

Дзеду бабуля кажа:

— Прывітанне табе ад старэйшых унукаў.

— А мне? — пытае Даша.

— І табе прывітанне ад Зойкі і Марынкі.

— То давай хутчэй яго! — патрабуе Даша.

— ✲ —

Прыходзіць да нас Даша і кажа:

— А я ўчора ў другога дзеда і ў другой бабы была...

— Ну і што? — пытаем.

— Нічога...

— І нічым цябе не частавалі?

— Частавалі. Суп давалі, — неяк неахвотна адказвае Даша.

— Відаць жа, смачны быў? Так?

— Смачны... Ага... Смажаны...

— Смажаны суп?... Няўжо?.. — здзіўляемся мы.

Малая ўжо больш спакойна растлумачвае:

— Ага, смажаны... І яшчэ падгарэлы...

**Васіль Хомчанка**

### ЦЕВЕНЬ

У лесе нечакана сыпануў дождж. Буйныя цёплыя кроплі гучна заляскалі па траве і лісцях дрэў.

І ўсе пачалі хавацца ад дажджу.

Жучкі, матылькі, мухі пазалазілі хто куды: у чашачкі кветак, пад лісце, у розныя шчылінкі.

Мышка прытаілася пад чырвоным грыбам мухаморам.

Сінічкі ў дуплы пахаваліся.

А жабы, што сядзелі на беразе сажалкі, думалі, куды б ім схавацца, і скокнулі ў ваду.

Так і прасядзелі там, пакуль лівень не скончыўся.

### СУСЕДЗІ

Сарока і сава — суседзі. Жывуць яны на адной сасне: сава ў дупле, а сарока на верхавіне.

Увечары, калі сарока спаць кладзецца, сава прачынаецца і ўсю ноч крычыць, не дае спаць суседцы.

„Я ж табе адплачу, — злуецца сарока. — Хай толькі дзень настане.“

І раніцай, як толькі сава залезе ў дупло, сарока-белабока ўзнімае такі шум, так стракоча, што беднай саве хоць вушы затыкай.

І такая калатня штодзень і штоночы ў іх.

— Ну і суседзі! — смяюцца жыхары лесу.

### НІНАЧЦЫ БАЛІЦЬ

Скакала Ніна па хаце, скакала і выцяла ножку аб услон.

Ніна аж на падлогу села ад болю. Схапілася рукамі за ножку, але не заплакала.

А Петрык раптам на ўвесь голас як загалосіць!

— Што з табою? — кінулася да яго маці.

— Баліць.

— Што?

— Ножка ў Ніны баліць, — зарумзаў ён, размазваючы слёзы.

Маці смяецца, Ніна смяецца, а Петрык плача.

## Новыя вершы

**Віктар Швед**

### ТАК ПАХНЕ БУЛЬБА

Так пахне бульба з год дзіцячых,
Што ў вогнішчы пяклі мы ў полі.
А сёння дык зусім інакш,
Дзяцей змянілася ўжо доля.

Кароў не пасвяць табунамі
На голым лузе без травінак
Дзеці з пустымі жыватамі,
Худыя, быццам іх скаціна.

Таму і бульба ім заўсёды
Так смакавала, як ласунак.
Яна больш пахне з кожным годам,
Маёй душы кранае струны.

### СПЛЮ, ЯК ЗАБІТЫ

— Калі будзільнік моцна звоніць,
Са сну глыбокага зрывае,
Здаецца мне тады спрасоння,
Што раптам у мяне страляюць.

— З ложка, напэўна, з перапуду
На ногі ўскакваеш тады ты?
— Ды не, хлусіць я тут не буду,
Далей сплю, быццам бы забіты.

### ЛЫСЫ З ДОЎГАЙ БАРАДОЮ

На экране нечакана
Хлопец летняю парой
Лысага прыкмеціў пана,
Ды з даўжэзнай барадой.

— Аніяк, — сказаў Валодзя, —
Я адказу не знайду:
Як чупрына пераходзіць
З галавы на бараду?

### ДРУГАГОДНІК

Сыночак адазваўся ад парога,
Пасведчанне схаваўшы за плячыма:
— Са школы вестак вам прыношу многа,
Не будзьце толькі для мяне благімі.

Галоўнае скажу вам у міжчасе,
З чым вы павінны сёння памірыцца:
Лягчэй мне будзе ў гэтым самым класе
Ізноўку па канікулах вучыцца.

### Я, МАТУЛЯ, БЫЎ МЯЧОМ

Увайшоў сынок у хату
Чорны, быццам камінар.
Сеў у куце вінаваты,
У далонях скрыўшы твар.

Паглядзела мама з жалем,
Са здзіўленнем у вачах:
— Дык у што ж вы там гулялі?
Цэлы ў брудзе, сіняках.

— Не магу назваць я толкам
Гульні нашай за сялом.
Я ўсё лётаў, падаў толькі,
Я, матуля, быў мячом.



 

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## СТРАЛЕЦ І РЫБАК

Былі ў бацькі два сыны. Выраслі яны, як дубы, а бацьку ўсё няма палёгкі.

Большы, праўда, старанны хлопец быў, ды вось бяда: паляваннем заняўся. Людзі на работу ідуць, а ён стрэльбу на плячо ды — шмыгануў — у лес ці на балота. Цягаецца там увесь дзень, дахаты з пустымі рукамі ідзе, галодны, як воўк. Топча лапці, а прыбытку ніякага. Калі ж часам і ўпалюе якое зайчаня, дык хутчэй пану нясе, каб той даў пораху.

Перш сварыўся на яго бацька, потым бачыць — нічога не парадзіш, калі ў сына такая ахвота.

А меншы сын такі гультай удаўся, хоць ты яго з хаты гані. Дзень і ноч сядзіць з вудаю на рэчцы, за гаспадарку ж ані бярэцца. Наловіць жменю пешкуроў ці яршоў, — якая ад іх карысць? Хіба што кату паласавацца.

Пачаў і на яго бацька сварыцца, што толькі час марна траціць. Але і меншы сын не слухае бацьку, бо вядома, ахвота горш няволі.

А каб апраўдацца перад бацькам, што з пустымі рукамі прыходзяць, выдумляюць сыны розныя прычыны.

Стралец расказвае:

— Сёння з самага ранку натрапіў я на чараду коз. Была там каза з казлянятамі ды стары казёл барадаты. Але толькі я зладжыўся, каб выстраліць, ажно ў казла, ліха на яго, у ноздрах восы заказыталі. Ён як чмыхнуў — цэлы рой восаў вылецеў з ноздраў. Давай тыя восы казу з казлянятамі кусаць... Ну, яны і пабеглі, як шалёныя, у гушчар. Я за імі. Выскачыў на палянку, а там стаіць на задніх лапах вялізны, як вол, мядзведзь. Бурчыць сярдзіта ды абараняецца пярэднімі лапамі ад чмялёў. Ну, думаю, гэта, відаць, толькі што выйшаў з яго чмяліны рой. У такі час мядзведзь вельмі злосны. Пабаяўся я стралядь у яго, а хутчэй скокнуў на елку. І сядзеў там, на елцы, увесь дзень, пакуль мядзведзь не сышоў...

Рыбак расказвае:

— Сяджу гэта я на беразе, сачу за паплаўком. Раптам нейкі шчупачышча цап за кручок — і на дно! Я за вудзільна цягну, ажно жылы ў мяне трашчаць. Даваλок да берага, а шчупак віль хвастом і — будзь здароў... Бадай цябе! Закінуў другі раз вуду. Зноў той шчупачышча-дурнішча папаўся. Пацягнуў яго да берага, хацеў рукамі ўхапіць, ды не ўтрымаўся і — шабулдых у ваду!... Насілу жывы выкарабкаўся.

Слухае бацька сыноў ды толькі галавою круціць:

— Праўду бо людзі кажуць, што ў стральца дым густы, ды абед пусты, а рыбак як намочыцца, то і рыбы яму адхочацца.

Думаў, думаў бацька, як яму сыноў адвучыць ад благой прывычкі, але нічога прыдумаць не можа.

Аднойчы зайшоў да яго стары жабрак і папрасіўся нанач. Разгаварыўся бацька з жабраком, на сыноў паскардзіўся.

— Выгадаваў, — кажа, — дзяцей, а падмогі на старасць ніякай. Бо, вядома, стралец страляе, а гаспадарка гуляе.

Выслухаў жабрак бацькаву скаргу і параіў, што яму зрабіць, каб прывучыць сыноў да гаспадаркі.

Назаўтра бацька кажа сынам:

— Вось што, сынкі, ёсць у мяне адна далёкая радня. Пайду я да яе. А вы сабе жывіце, як хочаце.

Сабраўся і пайшоў.

Засталіся сыны гаспадарамі.

**Працяг у наступным нумары**




*ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!*

*Мы, вучні чацвертага класа, пачалі выпісваць „Ніву". Атрымліваем яе ў кожную суботу. Чытанне „Нівы" пачынаем ад старонкі для дзяцей „Зоркі". Цікавяць нас вершы, казкі, апавяданні і малюнкі, якія расквечваем каляровымі алоўкамі.*

*Дарагая „Зорка". Мы хочам пазнаёміцца з Табой асабіста. Таму просім прыехаць да нас на ўрок беларускай мовы. Урокі роднай мовы адбываюцца ў нас у чацвер і суботу. Мы рады будзем сустрэчы з Табой. Чакаем.*

**Вучні 4 а класа**
**пачатковай школы № 3**
**у Бельску-Падляшскім**

**Віктар Хаўратовіч**

## ЗМОЎК ПТУШЫНЫ СПЕЎ...

Змоўк птушыны спеў і ціўкат,
Звон пчаліны змоўк,
Па слядах заечых ціха
Ходзіць шэры воўк.

Непрытульна зайцу ў лесе
Без сваёй страхі:
Як у хату, грэшца лезе
Ён пад куст сухі.

І вавёрцы не да ўцехаў,
Хоць і ёсць жытло:
Носіць спелыя арэхі
І грыбы ў дупло.

Назапасіў ежы вожык,
Выслаў лісцем мох
І на мяккі, цёплы ложак
Адпачыць прылёг.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 344030, г. Ростов-на-Дону, пер. Осетинский, 13 б, Пролетарский район, Постукян Анжелике. 6 клас.

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, п/о Рылёво. Гречишкину Валерию. 6 клас.

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, п/о Рылёво. Черныш Ане. 6 клас.

СССР, 347600, Ростовская обл., г. Сальск-4, ул. Крамского, 5. Шаблий Света. 15 год.

СССР, 347600, Ростовская обл., г. Сальск-4, ул. Гайдара 3, Халаимовой Тане. 15 год.

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Мелиховская, 25. Силезнёвой Алисе. 6 клас.

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, п. Новойстройка, ул. Первомайская, 39, кв. 16. Неговора Наташа. 5 клас.

СССР, 606200, Горьковская обл., г. Кстово-10, 2 м-он, д. 8, кв. 20. Степанова Света. 5 клас.

СССР, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 23 а, кв. 53. Жабинской Марине. 14 год.

СССР, 344078, г. Ростов-на-Дону, ул. Волкова, 3/1, кв. 176. Наумовой Людмиле. 7 клас.

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 75/12, кв. 16. Марына Сталярэнка. 3 клас.

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул К. Лібкнехта, 94, кв. 58. Каця Свірыдовіч, 3 клас.

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 14, кв. 8. Іра Белаус. 3. клас.

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 69, кв. 30. Андрэй Чыркоў. 6 клас.

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 69, кв. 26. Гена Ліцяга, 6 клас.

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 8, кв. 18. Валеры Сядлоўскі, 6 клас.

БССР, 230003, г. Гродна, вул. Шчорса, д. 31, кв. 17. Вітуль Галіна. 14 год.

БССР, 230015, г. Гродна, вул. Горкага, 92, кв. 32. Эйсмант Марына. 14 год.

БССР, 230027, г. Гродна, вул. Лізы Чайкінай, 26, кв. 30. Кулік Алег. 10 год.

БССР, 230026, г. Гродна, вул. Сельская, 4, кв. 1. Мацяш Лена. 13 год.

БССР, 230023, г. Гродна, вул. Дзяржынскага, 7, кв. 50. Яскевіч Наташа. 11 год.

## АДГАДАНКА



**Размалюй карцінку каляровымі алоўкамі.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

